# “Эпізоды” Я. Кіпеля

Амаль праз тры дзесяцігоддзі пасля смерці былога вязня сталінскіх канцлагераў, а ў час вайны Прэзідэнта ІІ Усебеларускага Кангрэса Яўхіма Кіпеля пры дапамозе яго нашчадкаў, сяброў і сучасных даследчыкаў у Нью-Ёрку выйшла аўтабіяграфічная кніга яго ўспамінаў “Эпізоды”[1], у якой ахоплены амаль увесь жыццёвы шлях аўтара — ад пачатку і да 60-х гадоў XX стагоддзя.

Лёс Я.Кіпеля, безумоўна, незвычайны. У грамадзянскую вайну аўтар змагаўся, і вельмі паспяхова, на баку Саветаў, а ўсё астатняе жыццё прысвяціў барацьбе з гэтымі самымі Саветамі.

Рэдактарамі кнігі (І.Урбановіч[1] і З.Саўкам[2]) ва “ўступным слове” зазначана, што “ў кнізе шмат абсалютна новых <…> звестак, напрыклад, аб захапленні Вацлава Ластоўскага парапсіхалогіяй <…>, або пра набыццё Сцяпанам Некрашэвічам ад польскага магната вялікага кнігазбору пра старажытную Літву”. Безумоўна, “Эпізоды” каштоўныя найперш насычанасцю невядомымі звесткамі. Яны істотна ўдакладняюць урыўкі з успамінаў Я.Кіпеля, якія з’явіліся ў перыядычным друку Беларусі ў 1990-я г. (у замежжы часткова друкаваліся некалькі дзесяцігоддзяў таму назад), і “Паказанні Яўхіма Кіпеля”, надрукаваныя У.Міхнюком у “Полацаку”.

Напэўна, упершыню з “Эпізодаў” чытач дазнаецца пра далейшы лёс арыштаванага ў 1930-я г. выдатнага беларускага матэматыка, перакладчыка, аўтара падручнікаў па светабудове, геадэзіі, статыстыцы, трыганаметрыі, вышэйшай матэматыцы, першага падручніка па алгебры на беларускай мове Аляксандра Круталевіча — паплечніка Я.Коласа, М.Грамыкі, М.Піятуховіча, А.Смоліча і іншых выкладчыкаў БДУ і Мінскага вышэйшага педінстытута, Белпедтэхнікума, або, як называлі гэтыя навучальныя ўстановы следчыя з “амерыканкі”, — “гнёздаў нацдэмаўшчыны”.

Магчыма, таксама ўпершыню многія пазнаёмяцца і з “Прамовай Язэпа Лёсіка” да выпускнікоў Мінскіх курсаў беларусаведы (1922):

*“Вашы свечкі запалены, і вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоркі, разыдзецеся вы па Беларусі, каб панесці з сабою вялікую радасць аб уваскрэсенні Беларусі. Вы скажаце народу беларускаму, што айчына яго ўваскрэсла, што ўжо разбіта дамавіна яго і далёка адкінуты камень*

---

[1] Кіпель. Я. Эпізоды. Нью-Ёрк. 1998.

*ад гроба яго. Вы скажаце яму, што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе і што недалёка ўжо Абяцаная Зямля яе…”*[2]

Упершыню многія чытачы даведаюцца, пра што Язэп Лёсік спрачаўся з Цішкам Гартным, як нараджаліся “Полымя” і “Наш край”, прачытаюць, як ствараўся БДУ і клуб моладзі “Беларуская хатка”. Пра апошнюю адзначым, што за нядоўгі перыяд існавання ў «хатку» заходзілі шмат хто з вядомых пісьменнікаў. Быў сярод іх і Андрэй Александровіч. Пра яго ў кнізе ёсць асобны артыкул, дзе паэт паўстае не зусім тым «бравым камсамольцам», якім яго апісвалі некаторыя сучаснікі.

Магчыма, Я.Кіпель — першы, хто паведаміў, што такое «калона суровага рэжыму», якая была Бутырская турма пры Сталіне, з чаго пачыналася пабудова другой чаргі БАМа… Упершыню аўтарам сведчыцца і пра збіванне Уладзіміра Дубоўкі на этапах, адшукваецца след беларускага паэта Язэпа Падабеда[3] (знік у канцы 1920-х г.), які яшчэ ў пятнаццаць гадоў напісаў:

*І будзе на нагах змардованых звінець ланцуг*[3]*,*
*Пакуль народ пакуту зносіць!..*

Свой погляд на падзеі 1930-х г. выказвае ў кнізе і жонка аўтара, былая сяброўка «Беларускай хаткі» Марыя Кіпель, аднакурсніца па БДУ П.Броўкі, С.Баранавых, А.Пальчэўскага, А.Сідарэнкі і першага «афіцыйна» расстралянага беларускага паэта А.Салагуба. Пра атмасферу, якая існавала ў Беларусі ў сярэдзіне 1920-х г, М.Кіпель піша: «…усе гаварылі па-беларуску… Беларусь ставала на дзяржаўны шлях…” Успамінае яна і пра “сапраўднага прыяцеля сем’яў арыштаваных пісьменнікаў Міхася Лынькова”, і тое, што калі яе муж быў сасланы ў Сібір і не было за што жыць, ёй “часта даваў працу на дом <…> Янка Маўр[4]”. З успамінаў М.Кіпель таксама даведваемся, “што ў той мясцовасці, куды быў высланы Яўхім, знаходзіліся А.Адамовіч, М.Азбукін, [А.Бабарэка], Ул.Жылка, М.Улашчык…” Зорная, адзначым, сабралася кампанія.

Расказваецца ў кнізе і пра апошнія гады жыцця Ул.Жылкі, пра тое, як Кіпелям на працягу амаль дзесяці гадоў удавалася захоўваць “Тэстамент”[4] паэта.

---

[2] Тамсама.
[3] Пазней пра ланцугі напіша і Хведар Ільяшэвіч:
*І не раз ланцугі звінелі,*
*На этапах сцякала кроў…*
[4] Захоўваецца ў БІНІМ. Упершыню надрукаваны ў 1942 г. у “Беларускай газэце” А.Адамовічам.

Ёсць у кнізе і невядомыя звесткі «пра ворагаў Беларусі Кнорына[5] і Мяснікова[6]», сведчанне, як адносіліся да Старшыні Саўнаркама Молатава[7] яго зямлякі на радзіме… Упершыню называюцца прозвішчы некаторых правакатараў на працэсе СВБ (Саюз вызвалення Беларусі), пералічваюцца першыя выкладчыкі БДУ, даецца разгорнутае азначэнне паняцця «нацдэм», удакладняецца лёс або апісаны невядомыя эпізоды жыцця М.Азбукіна, Ц.Гартнага, У.Ігнатоўскага, А.Смоліча, Б.Эпімах-Шыпілы, А.Цвікевіча, Я.Бялькевіча. Па-іншаму пасля «Эпізодаў» выглядае і аўтар падобнай па тэме кнігі «На крыжовай дарозе» (Кліўленд, 1986) А.Калубовіч.

Ёсць у «Эпізодах» і памылкі, якіх у час напісання пазбегнуць было немагчыма: «А.Дудар загінуў у ссылцы», «Пражыў Александровіч у зняволенні каля дваццаці пяці гадоў…» Вельмі суб'ектыўна ацэньваецца і дзейнасць літаратурнага аб'яднання «Маладняк»: «Арганізацыя «Маладняк» ставіла сваёй мэтай «надзець намордпік» маладым паэтам. З гэтым цяжка згадзіцца, бо «Маладняк» дзейнічаў у перыяд «адноснага рэнесансу», або так званай «нэпманаўскай адлігі», калі, як адзначала М.Кіпель, «Беларусь ставала на дзяржаўны шлях». «Маладняк» за кароткі пяцігадовы перыяд (1923—1928) свайго існавання адкрыў дзясяткі «ясных зорак» (словы Я.Лёсіка) беларускай літаратуры. Ды і цяжка ўявіць, каб адзін з кіраўнікоў "Маладняка", напрыклад, М.Чарот, змог "надзець намордпік" на кагосьці з сяброў "Маладняка", скажам П.Труса або У.Хадыку. Спрэчныя і некаторыя думкі Я.Кіпеля пра Я.Купалу…

Але напісаныя «народнай» мовай «Эпізоды», нягледзячы нават на тое, што яны прыйшлі да нас толькі праз доўгія гады, праліваюць святло на цэлую эпоху гісторыі Беларусі.

---

[1] **УРБАНОВІЧ (САЎКА) Ілона Аляксееўна** [н. 20.4.1972], журналістка, жонка З.Саўкі.

[2] **САЎКА Зміцер Фрыдрыхавіч** [н. 26.7.1965, Мінск], беларускі мовазнавец.

[3] **ПАДАБЕД Язэп Тодаравіч** [псеўданімы: Аркадзь Чабор; Аркадзь Чобар; ліст. 1905, в. Ванікоўшчына Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], паэт, публіцыст. У 1925 скончыў МБПТ. Працаваў у Клімавічах Магілёўскай вобл. у рэдакцыі акруговай газ. «Наш

працаўнік». Публікаваць вершы пачаў у 1924; друкаваўся на старонках час. «Маладняк» і «Полымя». Выступаў таксама з рэцэнзіямі і публіцыстыкай. Быў членам «Маладняка»; уваходзіў у рэдкалегію «Маладняка Калінінішчыны». Пасля 1928 публікацыі П. у перыёдыцы зніклі. Арыштаваны ў 1936. Некаторы час знаходзіўся ў адным канцлагеры з Я.Кіпелем. Далейшы лёс невядомы.

4 **МАЎР Янка** [сапр.: Фёдараў Іван Міхайлавіч; 28.4(10.5).1883, Лібава, цяпер Латвія — 3.8.1971, Мінск], дзіцячы пісьменнік. З сям'і рабочага. Скончыў (экстэрнам) Панявежскую настаўніцкую семінарыю (1903). У 1900—20-я г. працаваў настаўнікам у вясковых школах, з 1911 у Мінску. Друкавацца пачаў у 1923. З 1930 прафесіянальны пісьменнік. Падчас 2-й сусветнай вайны ў эвакуацыі. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Пахаваны на Усходніх могілках.

5 **КНОРЫН (Кнорыньш) Вільгельм Георгіевіч** [17(29).8.1890, б. хутар Цыелі Цэсіскага пав. Ліфляндскай губ., цяпер Цэсіскі р-н, Латвія — 29.7.1938, Масква, НКВД], савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, публіцыст, рэдактар. У 1910 скончыў настаўніцкую семінарыю ў Валміеры (Латвія). З 1910 член Сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, пазней у РКП(б). У час 1-й сусветнай вайны ў дзеючай царскай арміі. У 1917 удзельнічаў у стварэнні савецкіх органаў улады на Зах. фронце. З мая 1917 сакратар Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, член яго бальшавіцкай фракцыі. У 1918 старшыня Смаленскага губ. камітэта РКП(б). У той перыяд процідзейнічаў спробам утварэння бел. дзяржаўнасці, у тым ліку і савецкай. З 1919 кіраўнік спраў Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. 31.7.1920 ад імя КП(б)ЛіБ падпісаў Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці ССРБ. Сакратар Цэнтральнага бюро КП(б)Б у 1920—22, 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б у 1927—28. У 1928—35 у выканкаме Камінтэрна. З 1932 дырэктар Інстытута чырвонай прафесуры (Масква), член рэдкалегіі газ. «Правда» (1932—34), галоўны рэдактар час. «Коммунистический Интернационал» і «Большевик» (1934—37). У 1935—37 нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б). 28.7.1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР асуджаны на расстрэл. Рэабілітаваны 30.11.1955. Імем К. названа вуліца ў Мінску.

6 **МЯСНІКОЎ Аляксандр Фёдаравіч** [28.1(9.2).1886, Нахічэвань-на-Доне —22.3.1925], рэвалюцыянер, савецкі парт., ваенны, дзяржаўны дзеяч. Выступаў супраць самастойнасці БССР. Загінуў у авіяцыйнай катастрофе.

7 **МОЛАТАЎ Вячаслаў Міхайлавіч** [25.2(9.3).1890, Вяцкая губ., Расія — 8.11.1986], савецкі парт. дзеяч. Адзін з арганізатараў шматмільённых рэпрэсій у СССР. У 1957 выключаны з КПСС, але ў 1984 адноўлены.